# Голас Радзімы

ШТОТЫДНЁВАЯ ГАЗЕТА ДЛЯ СУАЙЧЫННІКАЎ ЗА МЕЖАМІ БАЦЬКАЎШЧЫНЫ

№ 41 8 кастрычніка 1992 г. Выдаецца з 1955 г.

(2287) Цана 50 кап. (па падпісцы — 8 кап.).


***ДА 1000-годдзя ХРЫШЧЭННЯ БЕЛАЙ РУСІ***

## ЦАРКВА—ГЭТА НАРОД



У канцы верасня на Беларусі адбыліся ўрачыстасці, прысвечаныя святкаванню 1000-годдзя Полацкай епархіі праваслаўнай Царквы на Беларусі. Калі зараз звяртаешся да прамоў, якія прагучалі ў гэтыя дні (а іх было шмат), то здаецца, што найбольш поўна сэнс юбілею вызначыў народны паэт Беларусі Ніл Гілевіч: «1000-гадовы шлях, які прайшла наша краіна пад блаславенным сяймом хрысціянскай веры, мы азіраем, вядома ж, не толькі для таго, каб паганарыцца мінулым або настальгічна паўздыхаць аб незваротна страчаным, а ў першую чаргу для таго, каб, дакрануўшыся да вытокаў, лепш зразумець сябе сённяшніх і ясней убачыць свой заўтрашні дзень, будучыню зямлі, якой належым».

24 верасня, у першы дзень свята, госці пазнаёміліся з Мінскам, яго цэрквамі, славутасцямі і месцамі будаўніцтва будучых храмаў горада, а таксама наведалі выставу работ заслужанага работніка культуры Беларусі мастака Яўгена Ждана ў Нацыянальнай мастацкай галерэі. У той жа дзень адбыўся малебен перад Цудатворным абразом Божай Маці, названым «Мінскі», у Свята-Духавым кафедральным саборы.

Колькі людзей прайшло перад гэтай іконай, колькі просьбаў чалавечых ведае яна, колькі вачэй угледалася ў яе цудатворны лік, толькі такой колькасці фота, кіна- і відэакамер

**Так праходзілі ў Заслаўі ўрачыстасці, прысвечаныя 1000-годдзю хрышчэння Беларусі. НА ЗДЫМКУ: шэсце з хрэсным ходам да Спаса-Праабражэнскага храма.**

**(Заканчэнне на 4-й стар.).**

**СЯМ'Я: АД АСТРАЛОГІІ ДА СТАТЫСТЫКІ**

## ХТО ВЫРАТУЕ НЕМАЎЛЯТКА?

З'ЯЎЛЕННЕ новага жыцця — вялікая таямніца. Дзіця — гэта ўжо маленькі свет. Космас. Людзі заўсёды чакалі дзіця і верылі ў святасць гэтай з'явы.

Астролагі сцвярджаюць, што сувязь паміж маці і дзіцем з'яўляецца да нараджэння і не губляецца пасля смерці. Кажуць яшчэ, што дзіця выбірае сабе бацькоў, каб з імі прайсці свой шлях эвалюцыі. Мы раптам зацікавіліся астралогіяй. Так было заўжды ў крызісныя часы. Аднак наўрад ці быў калісьці такім цяжкім для чалавецтва пераход з аднаго стагоддзя ў другое, як з XX у XXI. Адметнай рысай сённяшняга пераходу, на мой погляд, з'яўляецца неадэкватнае разуменне спрадвечных паняццяў — жыцця, нараджэння. Намі згублены каштоўнасці чалавецтва, што зберагалі яго ад злых сіл.

Ці не жудасна, што сёння гучыць актуальна старая прыказка-пажаданне —«скаціны з прыплодцам, а дзетак з прымор цам». Канешне, ніхто не гаворыць такіх слоў уголас. Аднак усё часцей чуюцца сярод моладзі разважанні пра тое, што дзеці — непамерны цяжар, што мець сёння дзяцей — раскоша. Маці сённяшніх нявест было 22-25 гадоў, калі яны нарадзілі першае дзіця. Іх час мела свае цяжкасці. Аднак яны нараджалі дзяцей. Наша ж пакаленне 20-23-гадовых ведае добра, што не кожны сёння можа мець дзіця, таму што яно патрабуе асобых умоў і немалых грошай. Першае і другое ёсць далёка не ў кожнай сям'і. Шмат маіх знаёмых, якія ўжо 1-2 гады замужам, чакаюць лепшых часоў для нараджэння дзіцяці. Спадзяюся на лепшае і я. А пакуль што вельмі сумныя лічбы паведамілі мне ў Дзяржкамстаце Беларусі. З 1986 года памяншаецца колькасць народжаных дзяцей. Калі ў 1986-м нарадзілася 171 611, то ў 1991 —132 045 дзяцей. А прырост насельніцтва суадносна 74 335 і 17 395 чалавек.

Канешне, можна ўспомніць, што ў развітых краінах (Швейцарыі, напрыклад) прырост насельніцтва невялікі. Ёсць краіны, дзе ён прыбліжаны да нуля. І, наадварот, асабліва вялікі прырост у маларазвітых афрыканскіх дзяржавах. Усё так. Аднак малы прырост у Швейцарыі —з'ява, што фарміравалася дзесяцігоддзямі. На Беларусі ж нараджальнасць упала на 56 940 чалавек за 5 год. Мусіць, лічбы гэтыя — лепшыя сведкі нашага нестабільнага жыцця, узровень якога паніжаецца год ад года. Час, калі нарадзіцца, не выбіраюць. Немагчыма даць жыццё свайму дзіцятку ў іншы час, акрамя свайго, нават, калі ён такі неспакойны, як наш. Жанчына заўсёды непакоілася за лёс свайго дзіцяці, зараз — асабліва.

У Андрэя Платонава ў рамане «Чавенгур» апісваецца голад 30-х гадоў у Расіі. Тады жанчыны неслі сваіх немаўлятак да бабкі. Ёй плацілі, хто чым мог, а яна давала ім спецыяльны раствор. Дзеткі ціхенька паміралі. Такое было пазбаўленне ад мук. Сёння гэтага не робяць. Аднак ёсць больш «цывілізаваныя» спосабы знішчэння жыцця. Ёсць аборты. І колькасць іх на Беларусі расце і робіць бездапаможнай усю філасофію свету. У 1991 годзе было зроблена 235 288 абортаў. Вы бачыце, што гэтая лічба перавышае колькасць народжаных на 103 243. Як мне тлумачылі ў Дзяржкамстаце, лічбы, звязаныя з абортамі, заніжаны. Справа ў тым, што там улічваюць толькі зарэгістраваныя ў медыцынскіх установах Міністэрства аховы здароўя. Аднак аборты робяць яшчэ ў клініках беларускай чыгункі, напрыклад. Яны не ўваходзяць у статыстыку, прыведзеную вышэй. Не фіксуюцца так званыя крымінальныя аборты, якія робяцца не ў бальніцах, часта не медыкамі. Пра такі аборт даведваюцца, толькі калі жанчына трапляе ў аддзяленне крымінальных абортаў, каб уратаваць сваё жыццё.

Зрабіць аборт вельмі проста. Беларусь у адносінах да гэтай з'явы атрымала ў спадчыну погляды былога сацыялістычнага грамадства. Яно ніколі не лічыла асаблва каштоўным чалавечае жыццё. Дзяржава стварыла для жанчын такія ўмовы, што нарадзіць дзіця без афіцыйнага мужа лічылася і лічыцца большай ганьбай, чым зрабіць аборт. Увагу грамадства яшчэ звярталі на сірот пры жывых бацьках у дзіцячых дамах. Пра аборты нібы не ведаў ніхто.

**(Заканчэнне на 3-й стар.).**

СЛАБАЕ СУЦЯШЭННЕ

## ДЗЕНЬ ПАЖЫЛЫХ ЛЮДЗЕЙ

**Генеральная Асамблея ААН абвясціла 1 кастрычніка Міжнародным днём пажылых людзей. Гэты гуманны акт накіраваны на прыцягненне ўвагі да іх патрэб, сацыяльную абарону.**

**Прэзідыум Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь 21 верасня 1992 года сваім указам аб'явіў 1 кастрычніка 1992 года Днём пажылых людзей Рэспублікі Беларусь. Савету Міністраў даданы адпаведныя даручэнні, якімі прадугледжваецца рад мер, накіраваных на паляпшэнне іх сацыяльнага становішча.**

**У нашай рэспубліцы зараз амаль кожны чацвёрты жыхар з'яўляецца чалавекам пажылога ўзросту.**

**Цяпер, ва ўмовах спаду вытворчасці, хуткага росту цэн, іх старасць становіцца ўсё больш незабяспечанай, многія з іх апынуліся на мяжы беднасці.**

**У Звароце Прэзідыума Вярхоўнага Савета і Савета Міністраў рэспублікі да суайчыннікаў, прымеркаваным да Дня пажылых людзей, у прыватнасці, гаворыцца: «Пакуль дзяржава застаецца беднай, пакуль эканоміка ў крызісе, немагчыма ў поўнай ступені забяспечыць і матэрыяльныя патрэбы пажылых людзей».**

**Разам з тым парламент і ўрад імкнуцца рабіць максімум магчымага, каб ветэраны адчулі хоць нейкую палёгку. На чарговай сесіі Вярхоўнага Савета мяркуецца разгледзець пытанне аб павелічэнні мінімальных размераў заработнай платы і пенсій.**

**1 кастрычніка было адзначана ў Беларусі як свята пажылых людзей.**

*«Пасля прыняцця рашэння аб правядзенні рэферэндума наменклатурны ўрад Беларусі зрабіў рэзкі паварот у бок Расіі, адкрыта адкідаючы нацыянальныя інтарэсы беларускай дзяржавы. 20 ліпеня 1992 года ў Маскве былі падпісаны Пратакол спаткання ўрадавых дэлегацый Расіі і Беларусі, Дагавор аб каардынацыі дзейнасці ў ваеннай галіне. Пагадненне аб стратэгічных сілах, часова размешчаных на тэрыторыі Рэспублікі Беларусь, і іншыя дакументы, згодна з якімі Беларусь збіраецца мець «адзіную грашовую сістэму» з Расіяй на аснове расійскага рубля. Відавочна, няма патрэбы тлумачыць, што такое рашэнне ў існуючым становішчы было б раўназначна страце суверэнітэту, нацыянальнай капітуляцыі. Тады ўсялякія эканамічныя рэформы на Беларусі губляюць сэнс. Беларускі народ з іх нічога не скарыстае.*

*Паўстае пытанне, чаму такія пагадненні сталі магчымымі. Галоўная прычына — ізноў рэферэндум. У выпадку паражэння на рэферэндуме і на выбарах беларуская посткамуністычная наменклатура спадзяецца на ўмяшанне і падтрымку чужой дзяржавы.*

*Магу з поўнай упэўненасцю сказаць, што тыя, хто захочуць ужыць радыкальныя сродкі супраць Беларусі, пацерпяць поўны крах, які можа стаць канцом Расійскай імперыі. Мы — народ іншай культуры, які ўмее захоўваць мір і цаніць чалавечую асобу».*

*Зянон ПАЗЬНЯК, народны дэпутат Беларусі.*

ДЫПЛАМАТЫЧНАЯ ХРОНІКА

## ПАСОЛ ПОЛЬШЧЫ Ў БЕЛАРУСІ

**1 кастрычніка Надзвычайны і Паўнамоцны Пасол Рэспублікі Польшча ў Рэспубліцы Беларусь Яніна-Эльжбета Смулэк уручыла верыцельныя граматы Старшыні беларускага парламента Станіславу Шушкевічу.**

**Яніна-Эльжбета Смулэк (Эльжбета Смулкава) — прафесар Варшаўскага універсітэта, паланіст-славіст, спецыяліст у галіне беларускага мовазнаўства і праблематыкі польска-беларуска-літоўскага этнічна-культурнага паграніча. Аўтар трох манаграфій і звыш 90 навуковых работ па гэтай тэме, рэдактар калектыўных зборнікаў.**

**Нарадзілася 24 чэрвеня 1931 года ў Львове ў сям'і інжынера лясніцтва. У 1941—1946 гадах была дэпарціравана ў Сібір. Пасля вяртання ў Польшчу працавала і працягвала вучобу, атрымаўшы ў 1956 годзе званне магістра польскай філалогіі на універсітэце імя М. Каперніка ў Торуні. З 1957 па 1991 год працавала ў Варшаўскім універсітэце спачатку на кафедры беларускай філалогіі, а потым на кафедры агульнага мовазнаўства, прайшоўшы ўсе ступені прафесіянальнай падрыхтоўкі ад асістэнта да прафесара.**

**У 1991 годзе была назначана генеральным консулам Рэспублікі Польшча ў Мінску. З чэрвеня 1992 года — пасля стварэння пасольства — выконвала функцыі часовага паверанага ў справах Рэспублікі Польшча ў Рэспубліцы Беларусь.**

**Беспартыйная, з 1980 года — член «Салідарнасці».**

## НЯМА КАНФРАНТАЦЫІ

**Імкненне не толькі захаваць, але і прымножыць гістарычныя сувязі паміж расійскай і беларускай дзяржавамі, развіваючы сёння адносіны на новай, раўнапраўнай і ўзаемавыгаднай аснове, выказаў ад імя свайго ўрада Надзвычайны і Паўнамоцны Пасол Расійскай Федэрацыі ў Рэспубліцы Беларусь Ігар Сапрыкін, уручаючы 29 верасня Вярыцельныя граматы Старшыні Беларускага парламента Станіславу Шушкевічу.**

**— Нашы народы маюць агульныя славянскія карані, што ідуць у глыб вякоў,— падкрэсліў Ігар Сапрыкін у сваёй прывітальнай прамове ў ходзе ўрачыстай цырымоніі.— Рускі і беларускі народы заўсёды цягнуліся адзін да аднаго, адчувалі цесную сувязь культурных і духоўных традыцый. Гэта сувязь прайшла суровае выпрабаванне часам, і сёння ў рамках дзвюх незалежных дзяржаў атрымала новыя магчымасці для творчага развіцця.**

**У нас няма канфрантацыйных праблем, якія, як мы спадзяёмся, не з'явяцца і ў будучыні,— адзначыў пасол.— Гэта стварае трывалую базу для плённага, узаемавыгаднага супрацоўніцтва Расіі і Рэспублікі Беларусь у забеспячэнні дастойнага жыцця, правоў і свабод сваіх грамадзян, карыснага ўзаемадзеяння ў рамках СНД і на міжнароднай арэне.**

АХОВА ЗДАРОЎЯ

## ДАПАМОГА ПРЫЙШЛА З КІТАЯ



**Спецыялісты з лепшых клінік Кітая пачалі прыём хворых у дыспансеры НДІ радыяцыйнай медыцыны ў Мінску. Тым самым зроблены крок да рэалізацыі пагаднення аб стварэнні беларуска-кітайскай палікклінікі для лячэння пацярпеўшых ад аварыі на Чарнобыльскай АЭС. Першымі пацыентамі кітайскіх лекараў сталі «ліквідатары» з цяжкімі формамі захворвання і дзеці, якія пражываюць у зоне жорсткага кантролю. У лячэнні іх прымяняюцца традыцыйныя метады кітайскай медыцыны — травы, іголкаўколванне. Дарэчы, травы кітайскія ўрачы прывезлі з сабой і рыхтуюць зборы індывідуальна для кожнага хворага.**

**Кітайскія спецыялісты высока ацанілі арганізацыю работы ў дыспансеры, калектыў якога, нягледзячы на вострыя недахоп памяшканняў, здолеў стварыць спрыяльныя ўмовы для дзейнасці калег з-за рубяжа. І ўсё ж магчымасці прыехаўшых у Мінск урачоў абмежаваныя. Пакуль яны прымаюць 12—15 чалавек у дзень, зразумела, толькі з цяжкімі формамі захворвання. У перспектыве ж плануецца арганізаваць платнае лячэнне і іншых катэгорый хворых.**

**НА ЗДЫМКУ: медсястра Алена СІДАРЭНКА і правізар Акадэміі кітайскай медыцыны Лі Хуань ЧЖУН рыхтуюць наборы траў.**

СЕЛЬСКІЯ НАВІНЫ

**Перапяліная ферма створана ў калгасе «Свіцязь» Навагрудскага раёна. Пакуль тут тры тысячы птушак. Усяго ж іх колькасць мяркуецца давесці да 12—13 тысяч і атрымліваць у год да адзінаццаці мільёнаў яек і да 6 тон дыетычнага мяса. Прадукцыя гэта надзвычай багатая карыснымі рэчывамі і вітамінамі. Галоўная ж вартасць перапяліных яек, як лічаць спецыялісты, у тым, што ўжыванне іх стымулюе вывад радыеактыўных рэчываў з чалавечага арганізма. Сваю новую прадукцыю калгас пастаўляе ў асноўным у аздараўленчыя і лячэбныя ўстановы Гродна і Мінска, дзе папраўляюць здароўе дзеці з зоны, што пацярпела ад аварыі на ЧАЭС.**

**НА ЗДЫМКУ: новая прадукцыя калгаса.**

РЭЛІГІЙНАЕ ЖЫЦЦЁ

## У СЕМІНАРЫЮ — ПА КОНКУРСУ

**Новы навучальны год пачаўся ў Мінскай духоўнай семінарыі ў Жыровічах паблізу Слоніма. Паводле вынікаў конкурсу, на першы курс залічаны 54 абітурыенты са ста прэтэндэнтаў. У семінарыю прыняты ў асноўным ураджэнцы Беларусі, толькі чацвёра — «іншаземцы».**

**Цяпер на чатырох курсах адзінай у рэспубліцы навучальнай установы, якая рыхтуе свяшчэннаслужыцеляў для праваслаўных прыходаў (ёсць, праўда, і другая духоўная семінарыя, але для католікаў, у Гродне), вучыцца звыш 170 студэнтаў. Беларуская мова абавязковая для ўсіх, незалежна ад нацыянальнасці.**

**Навучанне тут бясплатнае і разлічана на 5 гадоў. Хоць першы выпуск чакаецца праз два гады, некаторыя семінарысты ўжо ўзначалілі царкоўныя прыходы і працягваюць вучобу завочна.**

ПРАФЕСІЯ І ЗАРПЛАТА

## ХТО КОЛЬКІ АТРЫМЛІВАЕ

**Газета «Беларускі час» апублікавала цікавыя для роздуму лічбы—хто колькі сёння атрымлівае за сваю працу. Падаём гэтыя звесткі.**

**Начальнік варты пажарнай часці ў гарадскім пасёлку—1 870 рублёў.**

**Сярэдняя месячная зарплата рабочага завода шасцерань аб'яднання «Мінсктрактаразапчастка»—6 580 рублёў.**

**Інжынер КТБ вытворчага аб'яднання «Інтэграл»—2 500 рублёў.**

**Артыст тэатра—2 600 рублёў.**

**Інжынер-будаўнік — 4 200 рублёў.**

**Вартаўнік садовага таварыства—1 500 рублёў.**

**Галоўны спецыяліст камерцыйнага банка—5 000—7 000 рублёў.**

**Дырыжор аркестра тэатра — 3 200 рублёў.**

**Сакратар Камісіі Вярхоўнага Савета РБ—9 400 рублёў.**

**Начальнік аддзела УУС (маёр)—9 000—10 000 рублёў.**

**Міліцыянер першага года службы—5 000—6 000 рублёў.**

**Дырэктар Інстытута Акадэміі навук РБ—6 000 рублёў.**

**Сярэдняя зарплата вадзіцеля трамвая—6 900 рублёў.**

**Старшы рэферэнт Вярхоўнага Савета РБ—5 800 рублёў.**

**Дырэктар завода жалезабетонных вырабаў (300 працуючых)—7 500 рублёў.**

**Намеснік загадчыка аддзела прадуктовага магазіна—3 700 рублёў.**

**Старшы рэдактар Нацыянальнай радыёкампаніі—3 050 рублёў.**

**Цырульнік—2 500 рублёў.**

**Механізатар калгаса, саўгаса—3 500—4 000 рублёў.**

**Даярка—3 000—3 500 рублёў.**

**Сярэдняя зарплата вядучага спецыяліста рэспубліканскага галіновага камітэта прафсаюза—5 000—6 500 рублёў.**

**Настаўнік матэматыкі сярэдняй школы—2 100 рублёў.**

**Медыцынская сястра гарадской паліклінікі—1 700 рублёў.**

**Малодшы навуковы супрацоўнік Акадэміі навук РБ—2 600 рублёў.**

ВЕСТКІ АДУСЮЛЬ

**✦ Усяго 13 мільёнаў долараў складалі на канец жніўня валютныя запасы Беларусі. А на розныя патрэбы сёння неабходна выдзеліць з дзяржаўнага фонду 105 мільёнаў долараў.**

**✦ У наступным годзе Мінскі трактарны завод вырабіць 95 тысяч трактароў «Беларусь», столькі ж, колькі і сёлета. Гаспадаркі рэспублікі закупляюць толькі 5 працэнтаў трактароў МТЗ, астатняе ідзе на экспарт.**

**✦ Аб'ём пасажырскіх перавозак на Мінскім метрапалітэне ў параўнанні з мінулым годам ужо скараціўся на 19 працэнтаў. А на паветраным транспарце—амаль напалову.**

## З ПЛЫНІ ЖЫЦЦЯ



Што ні кажыце, а Мінск усё-такі еўрапейскі горад, як часта любіць падкрэсліваць Станіслаў Шушкевіч, Старшыня Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь. Пра гэта сведчаць не толькі вышчарбленыя тратуары, на якіх сам чорт ногу зламае, калдобіны на праезджай частцы, ад якіх стогнуць аўтамабілі, адсутнасць элементарнага сервісу, калі дыпламату, які жыве ў гасцініцы, няма дзе кашулю памыць, але і вось такая сялянская ідылія. Мінскія кароўкі спакойна скубуць траву ў цэнтры сталіцы, над Свіслаччу, на фоне Траецкага прадмесця.

Дарэчы, калі верыць статыстыцы, то ў горадзе Мінску гадуецца больш за 200 кароў. Пра свіней, курэй ды коз мы звестак не маем, але калі скласці ўсю жыўнасць разам, атрымаецца сярэдні жывёлагадоўчы калгас. Так што ў еўрапейскі рынак нам не страшна ісці: са сваім малачком, тваражком ды і мясам.

Фота Віктара СТАВЕРА.

## ЯК НІ СОРАМНА, АЛЕ ФАКТ

# НЯПРОШАНЫЯ «ПАМОЧНІКІ»

Такой прыкрай з'явы беларуская вёска раней не ведала. Нават у самыя цяжкія пасляваенныя гады не было налётаў гараджан на калгасныя бульбяныя палеткі, пасевы морквы, цыбулі, капусты... Сёлета ж, быццам нейкае насланнё, зваліліся на вёску няпрошаныя «памочнікі».

Асабліва пацярпелі гаспадаркі, якія размешчаны паблізу буйных гарадоў. Яшчэ з ліпеня, калі пачалі спець агуркі, памідоры і іншая гародніна, пачасціліся набегі на агароды. Свой асабісты ўчастак ці дачу гаспадар неяк яшчэ мог выратаваць, а неабсяжныя калгасныя палі выратаваць ад тых «памочнікаў» стала вельмі цяжка. І... небяспечна. Злодзеі часта аб'ядноўваюцца ў цэлыя групы. Пры набегах яны скарыстоўваюць не толькі хуткасную тэхніку, але і зброю. Дайшло да таго, што за пэўны барыш (у рублях ці гарэлкай) такія групы наймалі «наводчыкаў». Страціўшыя сумленне людзі маглі падказаць злодзеям, хто не мае магчымасці пільнаваць дачу кругласутачна ці хто з калгаснікаў на выхадныя дні рэгулярна ездзіць далёка да сваякоў, пакідаючы хату без нагляду.

Менавіта так, напрыклад, былі спустошаны агароды на прысядзібных участках вёскі Масцішча, што на Лагойшчыне.

Некалі пасада вартаўніка ў калгасе лічылася самай лёгкай. Аднаго слова, што ферма ці поле знаходзіцца пад аховай, было дастаткова, каб злодзей не адважваўся зрабіць крадзеж.

Цяпер сітуацыя змянілася. Кіраўнікам калгаса вельмі цяжка знайсці вартаўніка. Ніхто не хоча рызыкаваць сваім здароўем, а то і жыццём. Часта можна прачытаць паведамленні, што на вартаўніка быў зроблены напад (і звязаць, і стрэліць могуць, а то яшчэ і хату падпаліць абяцаюць).

Добра, калі калектыўным гаспадаркам дапамагаць вартаваць дабро згаджаюцца супрацоўнікі міліцыі. Дзякуючы ім, у злодзеяў канфіскавана 75 тон бульбы на суму 518 000 рублёў, хаця гэтыя лічбы мізэрныя ў параўнанні са стратамі, нанесенымі вёсцы няпрошанымі «памочнікамі». Яшчэ ў ліпені на рынках, ля прадпрыемстваў, ля магазінаў, калі паспелі бульба, агуркі, памідоры, іншай гародніны было столькі, што вочы разбягаліся.

Але гандлявалі ёю не тыя, хто вырошчваў яе, не дзяржаўныя гандлёвыя прадпрыемствы, нават не ўладальнікі асабістых участкаў і дач, а людзі, якія да сельскай гаспадаркі ніякага дачынення не маюць.. Больш за ўсё — беспрацоўныя, аматары пажывіцца за чужы кошт.

— Гэта самыя страшныя злодзеі,— кажа аграном саўгаса «Рассвет» Мінскага раёна. — Сярод «джэнтльменаў удачы» ёсць рабочыя, служачыя, нават... артысты. Збярэ кожны з іх, скажам, кілаграмаў сорак бульбы на нашым полі, і ўсё, хопіць. А чалавек, які не хоча працаваць, які толькі і пільнуе, што кепска ляжыць, адным мяшэчкам гародніны не задаволіцца: краў у ліпені, будзе красці і ў жніўні, верасні, кастрычніку... Украдзе не дзесяткі, а сотні кілаграмаў — і павязе на рынак. Хаця і адзін украдзены кілаграм моцна б'е па «кішэні» кожнай калектыўнай гаспадаркі. Таму ніякаму злодзею няма апраўдання і спачування.

Што падштурхнула гараджан на такія незаконныя промыслы?

Першую прычыну мы раскрылі: грэюць рукі людзі, якія не любяць працаваць, а любяць лёгкія грошы. Дарэчы, у сувязі з павелічэннем беспрацоўных колькасць незаконных гандляроў павялічваецца.

Другая, і самая галоўная прычына, гэта цэны. Сёння адзін кілаграм бульбы каштуе 20 і болей рублёў! І гэта ў Беларусі, якая пастаўляла бульбу ледзь не ва ўсе рэспублікі былога Саюза. Часнок дык і за сто рублёў не купіш.

Пры нашай заработнай плаце чалавеку, які не мае дачы, дапамогі сваякоў з вёскі, цяжка зрабіць запас бульбы, гародніны на зіму. Гэта і штурхае яго на злачынства.

— Усё жыццё сумленна працаваў на трактарным заводзе, — расказваў нам затрыманы міліцыяй на полі саўгаса «Пятровічы» знаёмы токар, сусед па дому. — Адной маёй зарплаты хапала, каб пракарміць сям'ю з чатырох чалавек. А зараз жонка не працуе, дзеці малыя, майго заробку не хапае. Як жыць? Вось і прыйшлося закрыўшы вочы на сумленне ісці на «промысел». Адразу і папаўся з сетачкай бульбы кілаграмаў на дзесяць. Сорамна глядзець людзям у вочы. Але падкажыце, што рабіць, як сям'ю пракарміць?

...На жаль, ніякага рэцэпта мы падказаць не маглі, бо нават і з нашай журналісцкай зарплатай не надта пашыкуеш. Падумалася: не дай Бог, каб і мы аказаліся ў ліку тых жа «джэнтльменаў удачы». Застаецца толькі спадзявацца на лепшае.

Іван АБАБУРКА,
Яўген ІВАНОЎ.

# ХТО ВЫРАТУЕ НЕМАЎЛЯТКА?

(Заканчэнне. Пачатак на 1-й стар.).

Нашых жанчын ніколі не вучылі культуры чалавечых зносін паміж Ім і Ёю. Добра, што ў апошнія гады пачала выдавацца хоць нейкая літаратура. Пра інтымныя адносіны саромеліся гаварыць у школе. Як сляпых кацянят у раку, кідалі дзяўчынак у дарослае жыццё. З гэтай прычыны і нараджаліся выпадковыя дзеці, якіх ніхто не чакаў. Канешне, неадукаванасць грамадства — не адзіная прычына вялікай колькасці абортаў. У аддзяленні абортаў прыходзяць самыя розныя жанчыны. Шмат з іх маюць ужо дзяцей. Больш яны не хочуць нараджаць, бо не ў стане іх забяспечыць. Любая жанчына думае ў першую чаргу пра лёс ужо народжаных дзяцей — пра тое, ці хопіць грошай на вялікую сям'ю і як яна будзе жыць у двухпакаёвай кватэры. Калі ж абставіны не спрыяюць, жанчына ахвяруе жыццём, пра якое ніхто амаль і не здагадваецца. Прыходзяць дзяўчынкі 15—17 год з паперкай ад маці, якая дазваляе зрабіць аборт. Да кожнай медыцынскай карткі акуратна прыклеены лісток, дзе маці піша, што бярэ на сябе адказнасць за здароўе дачкі пасля аборта і за магчымасць яе бясплоднасці.

Дарэчы, у Мінску ёсць платнае аддзяленне абортаў. Аборт каштуе для жанчыны ад 564 да 756 рублёў. Гэта мізэрныя лічбы ў параўнанні з грашыма, што патрэбны на 1 месяц жыцця дзіцяці. Ды і нельга, мабыць, іх параўноўваць.

У клініках, дзе робяць аборты, праводзяць гутаркі, неяк спрабуюць даць жанчынам неабходныя веды. Аднак ці гавораць ім, што ў дзіцяці з 18-га дня пасля зачацця б'ецца сэрца, з 56-га фіксуюцца імпульсы мозга? Калі яму 12 тыдняў, ён трымае палец у роце, а на пальцы ёсць ужо адбіткі. Чалавечак. Сёння па сацыяльных прычынах жанчына можа зрабіць аборт, калі дзіця жыве ў ёй 28 тыдняў. Што гэта ўжо сапраўды забойства жывой істоты, навука медыцына не даказвае. Гэта відавочна. Пры набліжэнні інструментаў да плода, удары сэрца павялічваюцца ад 140 да 200 у хвіліну. Дзіця чуе небяспеку. А вось што гаворыць астралогія. Сутнасць чалавечая, якая прыходзіць на зямлю і будзе забіта, не згіне дарма. З яе і такіх, як яна, на Зямлі з'яўляюцца людзі з моцным патэнцыялам і з праграмай зла. Яны робяць на Зямлі войны, рэвалюцыі. Парушаюць эвалюцыю.

Бог дае жыццё. З ім ён дае свабоду выбару. Таму чалавек сам адказвае за сваё жыццё, за грахі. Мы адказваем перад Богам і сабой за тысячы загубленых жыццяў. Мы адказваем за галечу, што зрабіла нас маральнымі калекамі. І зноў жа мы адказваем за іншыя сотні тысяч чалавечкаў, што ўсё ж такі прыходзяць да нас штогод.

Ці турбуе нас, як жыве маладая кабета, што мела мужнасць падараваць нам гэтую святыню — дзіця. Магу падзяліцца з вамі сваімі ўражаннямі і сказаць, што жыве нялёгка. У матэрыяльным плане ў першую чаргу.

Ёй 23 гады. Мужу таксама 23. Іх сям'я падобная вельмі да многіх іншых маладых сем'яў. Вучыліся, змаглі ўладкавацца на работу. Ён працуе малодшым інжынерам на заводзе, яна — у бібліятэцы. Ён зарабляе каля 3 тысяч рублёў у месяц, яна — амаль напалову менш. Нарадзілася дзяўчынка ў іх, жаданая, прыгожая. Калі дагэтуль жылі ў яе маці, то пасля нараджэння Волечкі трэба было шукаць кватэру — цесна чатыром у адным матчыным пакойчыку. Купіць кватэру не па кішэні: дзе ўзяць каля паўмільёна рублёў? Знялі двухпакаёвую за 1 000 штомесяц. Такая невялікая цана таму, што кватэра без тэлефона, мэблі, далёка ад цэнтра горада. Калі жылі ў маці, не думалася пра мэблю, посуд, бялізну. А ў пустой хаце ўспомнілася гэта хутка. Канешне, не набывалі яны мяккую мэблю за 13 тысяч рублёў. Аднак без халадзільніка з дзіцём не пражывеш. Купілі. Не за 15 тысяч новы, а знайшлі недзе стары за 6 тысяч рублёў. Больш паловы грошай на яго пазычылі. Так і жывуць з халадзільнікам і нейкім тапчаном, што прывезлі ад яго бацькоў.

Так яны і жылі. Калі Волечка нарадзілася, маці яе выплацілі 3 000 рублёў. Штомесяц зараз плацяць 1 200 (маці-адзіночка, дарэчы, атрымлівае 1 500 рублёў).

3 000 рублёў хутка разышліся, бо пазычалі ён і яна не толькі на халадзільнік. Набывалі калыску амаль за 600, ложак. Куплялі пялюшкі па 50-57 рублёў, распашонкі па 22, паўзункі па 36 рублёў. За касцюмчык — кашулька і порткі — плацілі 140 рублёў.

У яе не было малака. Урачы тлумачылі, што зараз такая экалагічная абстаноўка, што гэта даволі распаўсюджана. Куплялі малако. Потым Волечцы ўжо патрэбны былі сокі. Куплялі і купляюць 250 грамаў соку за 20 рублёў. І гэта з кішэні, дзе пасля аплаты кватэры (яна ўжо вырасла да 1 500 рублёў) на 2-х дарослых і дзіця застаецца 2 700 рублёў. Я пыталася ў яе, як яны жывуць пры цане на добрае мяса каля 100 рублёў за кілаграм, хлеб —10 рублёў за булку, бутэльку малака —9 рублёў. Яна ўсміхалася: якое там мяса за 100 рублёў! Ён навучыўся есці манную кашу, яйкі. Кажа, галоўнае выгадаваць дзіця. Канешне, галоўнае. Урачы гавораць на кожным прыёме пра неабходнасць вітамінаў у натуральным выглядзе. Бацькі гэта разумеюць. Яшчэ яны ведаюць, што з часам усё будзе складаней: цэны ўзрастаюць. Будзе расці іх Волечка. І амаль кожны год ёй будзе неабходна новая вопратка, бо старая будзе малой. Дарэчы, світэр для дзіцяці 12 год каштуе 215 рублёў, дзіцячая шуба з ненатуральнага футра 897 рублёў, паліто на 8-гадовую дзяўчынку 139 рублёў. А я думаю, што калісьці ж час ім будзе мець уласны кут. Ды там трэба нешта паставіць акрамя халадзільніка і тапчана, якія ў іх ёсць. Яны спадзяюцца на лепшае. Вераць, што, калі будуць працаваць, нешта набудуць. Пакуль іх мэта знайсці месца ў дзіцячым садку для Волечкі. Пройдуць 3 гады водпуску маці, дзяўчынку аддадуць туды. І хто ведае, колькі гэта будзе каштаваць у той час, калі зараз бацькоў папярэджваюць, што яны павінны будуць плаціць па 800 рублёў.

Яны не адчайваюцца. Ведаюць, дзеля чаго жывуць — для сваёй дачушкі. Вельмі хочуць бачыць яе шчаслівай. Для яе дабрабыту і Ён і Яна будуць працаваць. Толькі б работа дала магчымасць забяспечыць сям'ю.

Я спытала неяк у Яе, ці адважацца яны мець другое дзіця. У адказ пачула, што некалі яны марылі пра 3 дзетак. А зараз... Яна сумна ўсміхнулася і сказала, што пра гэта не можа думаць. Ведае, што ў сем'ях, дзе заробкі не большыя, чым у іх, ёсць па 2 дзяцей і ім яшчэ больш даводзіцца круціцца, каб выжыць.

Што ж чакае Волечку, іншых дзетак праз гады? Якімі яны вырастуць у пакалечаным грамадстве, дзе так шмат выпадковых дзяцей. Можа дзеці нашы будуць зусім непадобныя да нас. У іх могуць быць іншыя каштоўнасці і стаўленне да чалавечай асобы, чым у нас. Хто ведае, раптам яны наогул не захочуць аддаваць свае гады, як іх бацькі, на барацьбу за жыццё сваіх дзетак. Мы тады скажам пра цяжкую моладзь, пра няўдалае пакаленне. Мы забудзем, што ўсё нядобрае далі мы ім разам з малаком мацярок.

Алена СПАСЮК.

# ЦАРКВА—ГЭТА НАРОД



(Заканчэнне. Пачатак на 1-й стар.).

не даводзілася ёй бачыць ніколі. Але, як заўсёды, гарэлі свечкі, пахла ладанам, і гучалі малітвы, адгукаючыся ў душах вернікаў святымі словамі: «Прасі сына свайго Госпада нашага Ісуса Хрыста, каб паслаў нам радасць аглядаць сваімі вачыма вольную Бацькаўшчыну нашу Беларусь, жыць у ёй і працаваць Богу на славу...»

А галоўнай падзеяй 25 верасня, несумненна, была навуковая канферэнцыя, прысвечаная 1000-годдзю Полацкай епархіі і праваслаўнай Царквы на Беларусі, якая адбылася ў Акадэміі навук. У дакладах паўставала ўся 1000-гадовая гісторыя Беларускай праваслаўнай царквы, яе няпросты шлях, поўны пакут, здрад і велічных подзвігаў. І станавілася зразумелым, чаму Царква бачыць асноўны сэнс свята ў паміnанні святых зямлі беларускай, якія сваім жыццём падалі прыклад самаадданага служэння Радзіме і яе народу многім і многім пакаленням вернікаў.

Вечарам таго ж дня адбыўся ўрачысты вечар у Дзяржаўным акадэмічным Вялікім тэатры оперы і балета, на якім да прысутных звярнуўся Старшыня Вярхоўнага Савета рэспублікі Станіслаў Шушкевіч. Ён сказаў: «Упершыню на Беларусі так шырока адзначаецца рэлігійнае свята. Спадзяюся, што для нашай маладой дэмакратычнай дзяржавы яно стане яшчэ адным крокам да адраджэння духоўнай спадчыны, усталявання чалавечай годнасці і гістарычнай справядлівасці. Радыкальным чынам мяняюцца адносіны дзяржавы да Царквы. У бліжэйшы час Вярхоўны Савет прыме закон аб свабодзе веравызнання і рэлігійных арганізацый. Я ўпэўнены, што праваслаўная Царква будзе заўсёды спрыяць узаемаразуменню паміж людзьмі розных перакананняў, паміж вернікамі розных канфесій. Накіраванасць праваслаўнай Царквы на кансалідацыю людзей дзеля стваральнай працы, яе міратворчая палітыка пацверджаны вашымі цудоўнымі словамі, Уладыка, я магу іх толькі прывесці: «Няма народа лепшага ці горшага, кожны народ мае права на павагу да сябе. Толькі мірны дух прынясе выратаванне, злосць, нянавісць, высакамернасць — дрэнныя дарадчыкі. Трэба вярнуць народам цярпімасць адзін да аднаго».

У слове ў адказ Мітрапаліт Мінскі і Слуцкі, Экзарх усяе Беларусі Філарэт падзякаваў за прывітанне і дадаў: «Я рады таму, што кіраўніцтва рэспублікі і вы, у прыватнасці, так правільна разумееце нашу пазіцыю. Яна такой была спрадвеку, бо Царква — гэта народ. І Царква заўсёды павінна быць з народам і дбаць аб яго інтарэсах, і духоўных, і культурных, і гістарычных».

Пра тое, што значыла і будзе значыць гэтае свята для нашага народа, напісана ўжо шмат і будзе напісана яшчэ больш. А вось аб тым, чым стала яно для нашых замежных гасцей, вельмі кранальна і шчыра адзначыў ігумен Грыгорый, настаяцель Свята-Кірыла-Тураўскага храма ў ЗША: «Ад часу маіх першых дзён, як праваслаўнага семінарыста, калі найважнейшым маім заданнем было прыглядаць за свечкамі і ладанам у нашым прыходзе, я бачыў у снах, выношваў надзею і маліўся аб тых найслаўнейшых днях, калі буду мець нагоду пабыць і памаліцца ў той святой зямлі, якая была асвячона крывёю пакутнікаў і падзвіжніцкім жыццём шматлікіх святых угоднікаў нашай праваслаўнай Царквы. Вы — тут, у Беларусі, а мы — у Беларускай епархіі ў Амерыцы вельмі моцна звязаны паміж сабой духоўна. Мы глядзім на вас як на Царкву-маці, і вашы болі — гэта нашы болі, а вашы радасці — радасці нашы. Прадаўжайце натхняць нас вашымі споведзямі, маліцеся, змагайцеся і пераўтварайце гэты край, каб ён стаў нарэшце тым, для чаго яго паклікаў Бог».

А ў суботу вялікая калона аўтобусаў і аўтамабіляў у суправаджэнні міліцэйскага эскорта адбыла з Мінска ў Заслаўе, дзе на старажытным гарадзішчы павінен быў адбыцца чын асвячэння каменнага крыжа, пастаўленага тут у гонар манахіні Рагнеды і сына яе Ізяслава. (Дарэчы, хочацца адзначыць адну вельмі істотную рысу гэтага свята — здзіўляючую і, на жаль, амаль забытую намі дакладнасць, з якой пачыналіся і канчаліся ўсе мерапрыемствы і падзеі. Мабыць, гэта адбывалася не таму, што праграма была вельмі насычанай і збой нават на 10 хвілін пагражаў зрывам чарговага мерапрыемства, а таму, што ўдзельнікі свята проста былі адказнымі і дысцыплінаванымі людзьмі, якія з павагай ставіліся адзін да аднаго і да сваёй справы).



Нібы сам Бог спрыяў гэтаму святу. Ні ветрыка не было ў ясны восеньскі дзень на гэтым надзвычай прыгожым месцы, і роўным полымем гарэлі свечкі ў руках усіх, хто прыйшоў да велічнага двухметровага крыжа. Здавалася, быццам бы не напярэдадні свята паставілі яго тут, а тысячагоддзе вырастаў ён з беларускай зямлі, асвячонай некалі знаходжаннем тут манахіні Рагнеды, у горадзе, названым імем сына яе Ізяслава, каб сёння, у дзень праслаўлення Сусветнага Узвіжання Чэснага і Жыватворнага Крыжа Гасподняга сабраць тут і вышэйшае духавенства з усіх бакоў свету, і простых беларускіх жанчын у пярэстых хустачках, міністраў і дзяўчынак у школьнай форме. Перад Богам усе роўныя...



Гучалі словы малітвы, нязменнай з тых самых старажытных часоў, як і тысячу год таму, празрыста сінела халоднае неба, плыло ў паветры, кранаючыся няроўнай паверхні крыжа, лёгкае восеньскае павуціннe, і ўспаміналіся словы Уладыкі, сказаныя ім за дзень да гэтай падзеі: «Зямля і неба, плоць і дух, часовае жыццё на зямлі і вечнасць, смерць і ўваскрэсенне. Вось гарызанталі і вертыкалі нашага быцця, якія ствараюць сабою крыж...»

Пасля гэтай цырымоніі адбыўся мітынг на гарадской плошчы Заслаўя, і шэсце з хрэсным ходам адправілася да Спаса-Праабражэнскага храма, дзе і адбыўся малебен.

І зноў, зноў — у дарогу, на гэты раз у Полацк. А за вокнамі — беларуская зямля, для каго — свая, прывычная і таму яшчэ больш дарагая, для каго — убачаная ўпершыню, а для каго — родная, але ж некалі страчаная і дзесяцігоддзямі бачаная толькі ў балючых і сумных снах. Колькі часу не быў на Беларусі Канстанцін Мярляк, старшыня царкоўнай управы з Нью-Йорка? Адказ паследаваў адразу, быццам усе 48 год і 2 месяцы лічыў ён дні да гэтага восеньскага ранка, калі ішоў па вузкай вуліцы старажытнага Заслаўя. Побач — сын, які ўпершыню ўбачыў бацькаву радзіму. «Гэта свята для мяне — двайная падзея,— гаворыць Канстанцін Мярляк.— Па-першае, юбілей беларускай Царквы і тое, як ён адзначаецца, цалкам адпавядае даце — такое свята магчыма стварыць толькі раз у тысячагоддзе. Па-другое, я нарэшце дома»,—гаворыць ён і змаўкае...

27 верасня ў Полацку стала днём найвышэйшага малітоўнага напружання і, адпаведна, кульмінацыяй свята. Здаецца, што ўвесь дзень ішло няспыннае набажэнства ў храмах і саборах горада, які першы на Беларусі асяніў сябе хрэсным крыжам: тры літургіі, вадасвятны малебен, архірэйская сустрэча ў Сафійскім саборы, хрэсны ход ад Сафійскага сабора ў Спаса-Ефрасіннеўскі манастыр, малебен, вынас мошчаў прападобнай Ефрасінні і хрэсны ход з мошчамі на саборнай плошчы манастыра, які дастойна ўвянчаў святы юбілей.

Скончылася свята, і наша Царква ўступіла ў другое тысячагоддзе свайго існавання. Цяжка адназначна адказаць на пытанне, што даў нам гэты юбілей, але нельга не згадзіцца з Нілам Гілевічам, які галоўны сэнс падзеі ўбачыў у тым, што яна дала моцны імпульс, каб кожны чалавек, застаўшыся сам-насам з сабой, спыніўся, зазірнуў у сваю душу і задумаўся над адвечным пытаннем пра сэнс уласнага жыцця.

Што ж датычыцца жыцця ўсіх нас, то якім бы цяжкім яно зараз ні падавалася нам, услухаемся яшчэ раз у словы Уладыкі Філарэта: «Я хачу выказаць надзею на тое, што свята наша стане жывым напамінам усім нам, што мы не адзінокія ў сваім зямным вандраванні, з намі святыя нашы продкі, усе яны прайшлі тысячагадовы шлях беларускі, і нам павінна быць значна лягчэй за іх прайсці свой шлях у гэтым жыцці, таму што перад нашымі вачамі іх подзвіг, і заключаецца ён у ажыццяўленні Евангельскага ідэала служэння Богу, людзям, роднай зямлі».

Вераніка ЧАРКАСАВА.

НА ЗДЫМКАХ: святкаванне 1000-годдзя хрышчэння Беларусі.

Фота Віктара СТАВЕРА.

# МОЙ ЖЫЦЦЯПІС

Эмілія КАЗАК – КАЗАКЕВІЧ



Чыгунка, якая цягнулася стужкай уздоўж саду ў напрамку Беларусі, была якойсьці загадкавай, таемнай. На мяжы Латвіі і Беларусі, з абодвух бакоў чыгункі, стаялі брамы, праз якія праходзілі цягнікі. На браме з боку Латвіі было напісана: «Привет трудящимся Запада», а з боку Беларусі: «Коммунизм сметёт все границы». Апошні надпіс я прачытала яшчэ ў 1923 годзе. Вясной, на свята, прыехала да мяне сяброўка. Аб прыездзе не паведаміла. Ідучы да мяне, яна не звярнула ўвагі на гэтую браму і прайшла праз яе, пасля чаго запыталася, дзе жывуць Казакевічы. Ёй адказалі, што ў Латвіі, і завялі на пагранічны пост. Савецкія пагранічнікі, бачачы, што гэта яшчэ зусім дзіцё, сазваніўшыся са сваім начальствам і атрымаўшы дазвол вярнуць дзяўчынку ў Латвію, умоўнымі трыма выстраламі вызвалі начальніка Латвійскай пагранічнай стражы, а пазней і мяне для апазнання. І калі я назвала яе імя і прозвішча, дзе вучыцца і куды ішла, то мне было загадана перайсці метры 2—3 за мяжу, за тыя вароты, распісацца за свае паказанні. Толькі пасля гэтага сяброўцы дазволілі ісці са мной. Ідучы назад, я і прачытала надпіс з боку Беларускай ССР. Так мы з сяброўкай пабывалі за мяжой.

Жывучы на мяжы з Беларуссяй, мы бачылі, як праходзілі савецкія пагранічнікі, як працавалі калгаснікі, пры якіх заўсёды стаяў пагранічнік з аўчаркай. Розныя думкі тады варушыліся ў галаве. Мы хадзілі па сваёй зямлі, калі хацелі і дзе хацелі — да самай канаўкі-мяжы...

Па восені, калі трэба было ехаць вучыцца ў 7-ю клясу, ужо трэба было плаціць за навучанне. Бацькі рашылі аддаць мяне вучыцца на краўчыху, бо плаціць за дваіх вучняў і адначасова сплачваць за зямлю запраўды было вельмі цяжка. Вось тут я атрымала першы балючы ўдар. Мне вельмі хацелася вучыцца ў гімназіі. Такое паведамленне перад самым



ад'ездам для мяне было зусім нечаканым. Я разгубілася, не ведаючы, што рабіць. Слёзы міжвольна пацяклі з вачэй. Я пайшла ў сумежны пакой, у спальню бацькоў, і лягла на іх ложак. Дзверы былі адчынены. Я чакала, што будзе далей. Чую, сястра кажа, што краўчых поўна на кожным вуглу. Брат не пярэчыў. Маці маўчала. На бацьку былі ўсе мае надзеі, бо і ён не вельмі хацеў, каб я вучылася на краўчыху. Нарэшце бацька падыходзіць да мяне і спакойным, мяккім голасам кажа: «Што ж ты, дачушка, ляжыш у маім ложку, хіба свайго не маеш?» Я ўжо адчувала, што ўсё будзе добра, і сказала, што лепш ужо ісці ў служанкі, чым у краўчыхі. Бацька сказаў, каб хутчэй збіралася, што я паеду вучыцца, бо і Сяргей Пятровіч[1] мяне хваліць, хоць можа і дарэмна. Далей я нічога не чула. Хуценька сабралася

[1] С. П. Сахараў, дырэктар гімназіі.

Працяг. Пачатак у № 40.

і паехала ў гімназію.

Вучыцца ў гімназіі было вельмі радасна, прыемна, цікава. Усе вучні гімназіі з Прыдруйшчыны, Індры і Пустыншчыны садзіліся ў Індры ў адзін вагон. Усё гэта нас радніла. Нягледзячы на ўзрост, завязалася дружба, якая цягнецца па сённяшні дзень з тымі, якія яшчэ жывуць. На жаль, з нашага пакалення засталася маленькая жменька.

Пасля заняткаў у гімназіі дзяўчаты хадзілі вучыцца ў кравецка-ткацкую майстэрню, а хлопцы ў слясарна-такарную і ў дрэваапрацоўную. Кіраўніком майстэрняў быў інжынер Комісар Ян Хрыстафоравіч.

У гімназіі часта адбываліся спектаклі, канцэрты, мастацкая гімнастыка, выступаў наш хор... І не толькі ў гімназіі, мы выступалі ў іншых навакольных мясцовасцях сярод беларусаў. У гімназіі выходзіла вучнёўская «Школьная часопісь». Часта прыходзілася хадзіць у рэдакцыю рабіць карэктуру. Вясной праходзілі спаборніцтвы па фізкультуры, у якіх прымалі ўдзел усе школы Дзвінска.

Кожны вучань гімназіі ў залежнасці ад сваіх здольнасцяў, акрамя вучобы, быў заняты ў самадзейнасці і ў агульна-грамадскім жыцці гімназіі. Кожную вясну рабілася ў гімназіі выстаўка вучнёўскіх вырабаў. Вучні ў нацыянальных касцюмах дзяжурылі на выстаўцы. Дзяўчаты ў сваё дзяжурства ткалі кросны ў часе выстаўкі. На выстаўцы кожны мог купіць тое, што яму падабалася. Усё гэта рабілася для таго, каб на атрыманыя сродкі больш вучняў звольніць ад платы за навучанне.

У гімназіі мы многа вучылі вершаў. Кніг было мала. Карысталіся «Гісторыяй беларускай літэратуры» М. Гарэцкага. «Дудка беларуская» М. Бурачка чыталася з захапленнем. Ведалі мы яе на памяць. А словы: «Не пакідайце ж мовы нашай беларускай, каб ня ўмерлі» былі нам як кліч да барацьбы за родную мову, за свой народ, за сваю краіну. Вельмі хацелася, каб жыло і красавалася ўсё роднае, беларускае. «Энеіду навыварат» і «Тараса на Парнасе» таксама ведалі на памяць. Паэзія Я. Купалы, Я. Коласа, Цёткі і іншых беларускіх пісьменнікаў сцвярджала тое, аб чым нам гаварыў А. П. Якубецкі. Мы пераканаліся, што на беларускай мове лёгка выказваць свае думкі, перажыванні, радасці і няўзгоды. Паэзія Я. Купалы зблізіла нас з народам, з яго жыццём, радніла нас з ім, з яго мастацтвам, з яго цяжкай доляй і цягай да вызвалення. Як жа нам хацелася на той час прачытаць хоць некалькі беларускіх раманаў, апавяданняў! Але іх мы не мелі.

Цікава, прыгожа, а часамі і смешна праходзіла жыццё ў гімназіі. Запраўды гэта былі лепшыя гады юнацтва, якія ніколі не забываюцца.

Памятаю, аднаго дня, перад лекцыяй рэлігіі, на перамене я стаяла ля вучыцельскага стала і чытала верш Цёткі:

**Не веру ідалам паганым,**
**Што з казальніц за грошы лгуць**
**І сочуць прагавітым вокам,**
**Зкуль больш чырвонцаў ім нясуць...**

Гэта было ў 10 клясе перад экзаменамі. Была апошняя лекцыя рэлігіі. І трэба ж было пачуць маё «выступленне» ксяндзу. Нічога не гаворачы, ён паставіў мне ў атэстат сталасці «4». Гэта азначала амаль тое самае, што і адзнака за паводзіны.

Будучы ў 10 клясе, я марыла вучыцца на доктара. Зубрыла латынь. Школьны доктар Цэльят[2], ведаючы мае жаданні, час ад часу дазваляў мне заходзіць у бальніцу і наглядаць за хворымі. Планы мае рухнулі раптоўна. Полымя пажару бацькоўскай хаты панішчыла ўсе мае думкі, імкненні, надзеі. Трэба было думаць, як паставіць хату, як адзецца і абуцца, як сплачваць за зямлю. Плаціць за вучобу ўжо не было чым. Права навучання ва універсытэце каштавала дорага.

Гэтае няшчасце (пажар) здарылася перад экзаменамі. Экзамены праходзілі як у сне. Нічога мяне больш не цікавіла. Атрымаўшы атэстат сталасці, паехала да бацькоў. Сумна

[2] Пётра Цэльят скончыў Страсбургскі універсітэт. На службе ў гімназіі з 1.10.1923 г.

Бібліятэка
№ 11. Беларуса-Выбаршчыка. № 11.

БЕЛАРУСКІ ПРАЦЭС У ЛАТВІІ.

Рыга. 1926.

было развітвацца з сябрамі і настаўнікамі, якія не шкадавалі сваіх сіл на наша выхаванне. Балюча было глядзець на Якубецкага, які ўжо быў хворы і працаваў апошні год. Жаль было пакідаць сям'ю Сахаравых. Дырэктар Сахараў і яго жонка Вольга Фёдараўна ў часе вучобы замянялі мне бацькоў, а іх дочкі Галіна і Ірына былі маімі шчырымі сяброўкамі.

Восенню 1930 года паехала ў Рыгу, каб скончыць двухгадовыя педагагічныя курсы. На курсах старалася як можна менш браць дапамогі ад бацькоў. Каб палепшыць сваё становішча, мне ўдалося некалькі гадзін у дзень працаваць у «школьным кутку», які быў створаны сацыял-дэмакратычнай партыяй. Гэта фактычна быў пазакласны час. Пасля заняткаў мы рыхтавалі хатнія заданні, адпачывалі, гулялі. Партыя сацыял-дэмакратаў прапанавала мне перакладаць з рускай мовы на латышскую розныя афіцыйныя паперы, якія павінен быў зацвердзіць натарыус. Трэба было перакласці на латышскую мову і Статут партыі. За гэта мне плацілі.

Кіраўніком настаўніцкіх курсаў быў Жэрдзі Парфіры Мяфодзевіч. Па нацыянальнасці украінец. Нейкі час ён выкладаў прыродазнаўства ў Дзвінскай беларускай гімназіі. У часе беларускага працэсу ў 1925 годзе быў часова дырэктарам гімназіі. Ніхто з вучняў яго не любіў, ды і вышэйшае начальства яго недалюблівала. Кватэра яго знаходзілася ў тым жа памяшканні, дзе і пакоі дзяўчат. Вечарам, пасля заняткаў, ён любіў падслухаць пад дзвярмі, аб чым гавораць дзяўчаты. Падходзіў ён ціха ў пантофлях. Каб адвучыць кіраўніка ад гэткай непрыгожай звычкі, мы пад дзверы клалі яйкі: ён на іх наступаў і вяртаўся хутчэй у свой пакой.

Цікава праходзілі лекцыі псіхалогіі, якія чытала Паўлава Марыя Аркадзеўна. Яна вельмі сардэчна адносілася да сваіх слухачоў. Летам выязджала за мяжу. Ведала нямецкую, ангельскую, французскую і рускую мовы. На латышскай гаварыла не зусім правідлова. Часта запрашала мяне да сябе, і за гарбатай цэлую гадзіну мы гаварылі на латышскай мове. Іншы раз запрашала ўвесь курс да сябе: пасля лекцыі яна частавала нас кавай і рознымі смачнымі закускамі. Яшчэ і білет выплачвала, што мы патрацілі на трамвай.

Паўлава была арганізатарам гуртка псіхолагаў. Заняткі ў ім былі вельмі цікавыя і карысныя. М. А. Паўлава напісала кнігу па псіхалогіі.

З прыемнасцю слухалі і лекцыі латышскай мовы доктара Арнольда Вевербранта.

Практычныя заняткі праходзілі тут жа ў школе, якая была ў адным памяшканні з настаўніцкімі курсамі. Школа была невялікай. Займала двухпавярховы драўляны дом. На другім паверсе жылі курсанты і кіраўнік курсаў, а ўнізе праводзіліся заняткі: днём — вучняў, а ўвечары — курсантаў.

Супроць школы быў вялікі прыгожы парк «Аркадзія». Вельмі многа ў ім было ружаў і іншых кветак. У каналах плавалі лебедзі. Кожны дзень мы бывалі ў гэтым парку. Адпачывалі сярод цудоўнай прыгажосці.

Праязджаючы праз Дзвінск, я заўсёды на некалькі гадзін застанаўлівалася ў ім, каб яшчэ раз паглядзець на будынак гімназіі, аб якім захавалася многа прыемных успамінаў: многа цяпла і святла атрымала ў гэтым будынку ад настаўнікаў.

С. П. Сахараў — дырэктар гімназіі — быў чулым і добрым чалавекам. Голас яго заўсёды быў аднолькава спакойным і роўным. Ён стараўся ўсім вучням па магчымасці дапамагчы, звольніць іх ад платы за навучанне. Улетку ён выязджаў на вёску, збіраў народны фальклор і абавязкова адведваў сваіх вучняў, знаёміўся з іх бацькамі, высвятляў іх матэрыяльнае становішча. Жонка яго, Вольга Фёдараўна, здольная літаратарка, заўсёды мела кантакт з дзяўчатамі гімназіі і дапамагала ім чым магла. Сваім дочкам і ўсім нам Вольга Фёдараўна была сапраўдным сябрам. Мы давяралі ёй усё наша жыццё, і яна ведала ўсе нашы тайны, ва ўсім нам дапамагаючы сваёй радай. Мы вельмі яе любілі.

Будучы ў Дзвінску, я заўсёды адведвала А. П. Якубецкага, які, як той Данка, мог вырваць сваё сэрца і аддаць яго людзям, каб яны ўбачылі добрае насенне, якое ён сеяў у маладыя душы сваіх вучняў, спадзеючыся на добрыя ўзыходы. Неўзабаве Якубецкі памёр, але светлая памяць аб ім засталася сярод тых, хто яго ведаў.

**НА ЗДЫМКУ: у майстэрні Дзвінскай гімназіі; брашура, у якой змешчана падрабязная справаздача аб судовым працэсе над беларусамі ў Латвіі; І. КРАСКОЎСКІ і П. МЯДЗЁЛКА сярод настаўнікаў і вучняў.**



# АДЧУЦЬ «ДЫМ АЙЧЫНЫ» Ў ПІСЬМАХ СЯБРОЎ

Заканчэнне. Пачатак у №№ 37—39.

Дарагая мая Дзіяна Цімафееўна!

Дзякуй за віншавальную тэлеграму! Думаю, што магу Вас сардэчна павіншаваць са здачай двухтомніка ў выдавецтва. Які цяжкі груз звалілі вы з плеч! Калі ласка, не хвалюйцеся і не непакойцеся. Усё будзе ў парадку. Усё роўна рэдактары рэжуць пасвойму падборкі, стрыгуць, як авечак, вершы, адкідваюць усё, што ім уздумаецца, у залежнасці ад характару, настрою, густу, культуры і, нарэшце, адносін да аўтара. Тут поўная бескантрольнасць, а іншы раз і беспрынцыпнасць. Людзям, якія ўвесь час чытаюць бясконцую колькасць вершаў па роду работы, яны набіваюць аскоміну: не даходзяць да сэрца, не хвалююць і не радуюць. Для іх гэта чарнавая работа, што надакучыла да адурэння, і нічога, акрамя жадання хутчэй сплавіць яе з рук, не выклікае. Такое ўражанне ў мяне выклікалі мае адносіны (завочныя) з рэдактарамі. Пра гэта гавораць іх плоскія рэплікі на старонках рукапісаў. Колькі нядобразычлівасці, колькі простага імкнення мацней зняважыць, пакрыўдзіць у гэтых рэпліках. Я ведала рэдактараў Купалу, Глебку і яшчэ некалькі маладых — гэта чулыя, улюбёныя ў вершы людзі. Як прыемна было працаваць з імі. Купала з улюбёнасцю ў работу рэдактара пісаў мне: «Працую над падборкай і рэдагаваннем Вашай кнігі з такім замілаваннем, як над сваёй». А Глебка, калі яго лаялі за маю кнігу (у час ганення на «нацыяналістаў», мяне, Бялевіча, Сасюру і многіх іншых), гаварыў на сходзе: «Мне вельмі падабаюцца вершы Канстанцыі Буйло, і я не мог іх чапаць». Але гэта было. А цяпер так многа людзей з халодным сэрцам, якія разумеюць, што яны маюць права рабіць з сваімі сабратамі, што ім уздумаецца. Божа, ратуй мой двухтомнік ад чалавека з халоднай душой і нядобразычлівым сэрцам! Ну, няхай будзе што будзе. Ад непазбежнага не выратуешся. Я разумею, што я не без граху. Вядома, магчымыя і памылкі, і адхіленні, і русізмы. І як прыемна, калі вопытная, сяброўская рука ўставіць удалае слова, выправіць няправільнасць і памылку. Чытаеш і радуешся. Помню такія праўкі ў Купалы, Кірэенкі. Гэта як мазок на карціне майстра, які адразу робіць вочы бліскучымі, рот выразным, вобраз дакладным. Маленькі мазок — а ўражанне вялікае.

Родная мая! Дзякуй Вам сардэчнае, вялікае за ўсю Вашу імклівую энергію. Дзякуй усім, хто прабіў дарогу маім вершам да людзей. Вельмі хачу, каб яны спадабаліся ім, каб прайшлі ад сэрца да сэрца. (...)

Вельмі хачу атрымаць ад Вас вялікае, добрае пісьмо. Рада, што ўжо не ляжу на Вас каменным цяжарам, нават дыхаць лягчэй стала. Мілы Вы мой, родны чалавечак. Які гэта падарунак лёсу для мяне! Атрымала паштовачку ад Ніны. Піша, што ўвесь час збіраецца напісаць мне пісьмо, але пакуль яшчэ «маўчу». Вельмі цяжкі быў для мяне мінулы год». Бедная, родная, мілая дзяўчынка. Усё разумею, усё адчуваю, як на сабе—усе яе нягоды і беды. (...)

Вас моцна і пяшчотна цалую.

Ваша назаўсёды Кан. Буйло.

*Масква, 6/IV—79 г.*

Дарагая Дзіяна Цімафееўна!

(...) У мяне вялікае гора — смерць Алеся Пальчэўскага. Я літаральна акамянела, даведаўшыся пра яе, а таксама пра Ткачова. Аднаго дабіла вайна, другога—пракляты культ. Бедная Тамара! Не ведаю, якімі словамі звярнуцца да яе. Яна ўся баліць, як дакрануцца да яе. Ужо два дні саджуся за стол, збіраючыся нешта ёй сказаць, а словы нямеюць перад такім няўцешным горам. Застацца зусім адной. У яе нядаўна памерла сястра, цяпер муж. Божа мой! А як трагічна яна страціла першага мужа — так, як і я... І ўсё гэта перанесла гэтая маленькая, кволая жанчына — і сама са сцэны трапіўшы ў мясціны не такія ўжо далёкія! Цяпер ездзіла ў Тбілісі на ўрачыстасці юбілейныя, прысвечаныя загубленаму нявінна мужу. Што яму ў гэтым? Ён не даведаецца, што гонар яго адноўлены, што ён зноў у гонары і пашане. Яна дачакалася гэтага пры жыцці. А колькі бедаў цяпер звалілася на яе галаву. Як перажыць? Як перанесці. Мне зразумелая яе сціпласць, яе замкнёнасць, яе страх адкрываць душу. А яна знайшла ў сабе сілы — ад заслужанай артысткі стала пісьменніцай. Вельмі спадзяюся, што творчасць дапаможа ёй перанесці і не загінуць ад адчаю. У мяне няважна. З нервамі творыцца незразумелае. Хвалююся за ўсё. Мне здаецца, што каб было б лепш, ўсё гэта рабілася пасля маёй смерці. Я не адчувала б гэтай трывогі. Цяпер мне цяжка ўвогуле зразумець, што са мной. Прашу Вас, лічыце, што я памерла, і рабіце ўсё—як быццам мяне няма на свеце. Памагчы я нічым не магу. Вось толькі днямі вышлю фота і яшчэ вершы, якія быць можа ў Вас ужо і ёсць. Усё, што застанецца ў Вас пасля выкарыстання, — прашу здаць у Дзяржархіў Беларусі. Вам вельмі веру—у гэтым маё выратаванне Інакш было б дрэнна.

Ваша Кан. Буйло.

*Масква, 3/V—79 г.*

Дарагі Сяргей Міхайлавіч[1].

Сардэчна дзякуй Вам за кнігу Гальяша Леўчыка «Доля і хлеб». Чытаю яе і перачытваю. Усе людзі знаёмыя, з Людвікай Антонаўнай інтэнсіўна перапісваюся — цікавы і цудоўны чалавек. Ваш артыкул прачытала з задавальненнем. Прыемна было даведацца, што Вы актыўна працавалі па беларускай справе. Вось і пацярпелі на гэтым. Але гэта не мінала амаль нікога. І ўсё ж людзі не баяліся ніякіх пагроз і пакаранняў, а ішлі ў бой з адкрытым забралам. Віншую Вас са святам Кастрычніка. Жадаю ўсяго найлепшага ў жыцці. А ці паслалі кніжку Людвіцы Антонаўне? Яна мне пісала, што нават рабіла карэктуру яе.

Са шчырым прывітаннем

Кан. Буйло.

[1] Сяргей Міхайлавіч Новік-Пяюн.

Дарагая, родная мая Дзіячачка Цімафееўна!

Атрымала Ваша пісьмо, якое вельмі абрадавала мяне. Няўжо ўсё ж змянілася Выд-ва і будзе выконваць свае абяцанні і планы? Я ім напісала вялікае пісьмо, дзе былі і просьбы, і выкладкі, чаму яны абавязаны друкаваць мяне. Гэта тое, што я ім над душой не вісела, не трывожыла, а іх маўчанне пачынае сур'ёзна трывожыць мяне і Вас, і з гэтым нешта трэба рабіць. Прасіла рэдактара не вельмі бойка займацца «абразаннем», а ўважліва ставіцца да індывідуальнасці аўтара і не стрыгчы яго па вобразу і падабенству свайму. Але я сказала, што рабіць патрэбныя рэдактарскія папраўкі, вядома, трэба, і я супраць іх зусім нічога не маю. Я старалася не нервавацца, супакойваючы сябе шматгадовай практыкай, але нервавалася ўсё роўна. У мяне ж цяпер няма ў запасе шмат гадоў...

Супакойцеся і Вы, мая добрая, і... няхай будзе ўсё добра. Не хвалюйцеся і не бойцеся нічога. Я пачынаю верыць у шчасце.

Людвіка Антонаўна напісала мне пісьмо, але ў ім няма паведамлення аб Вашым наведванні яе. Я ёй таксама не напісала, што ведаю пра Ваш візіт — магчыма пісьмо напісана да Вашага да яе прыезду. Яна прыгожа апісала восень у сваім лесе.

Я атрымала пісьмо ад Валянціны Трыгубовіч аб яе камандзіроўцы ў Польшчу. Апісвае, як у школе імя Б. Тарашкевіча як гімн школы пяюць «Люблю наш край». Пісала, што быў злёт з усёй Польшчы былых вучняў гэтай славутай школы. І вось — была вельмі хвалюючая мінута, калі ўся школа са слязамі на вачах спявала свой гімн стоячы, і Валянціна Трыгубовіч піша, што яна таксама спявала з імі гэтую песню. Яна намякнула, што магчыма варта напісаць у гэтую школу мне. Я ёй сказала, што мая песня стала самастойнай асобай, значыцца народнай — і мне прымазвацца да яе і яе славы — бадай, нясціпла. Таму нічога ім пісаць не буду. Ёй падзякавала за хвалюючую вестку. Браніслаў Тарашкевіч памёр... у 1937 годзе ў нас. Там яго арыштавалі і прысудзілі да 12 гадоў зняволення за камуністычную дзейнасць. У нас — загінуў навекі. Бывала так вельмі часта.

Ваша Кан. Буйло.

*Масква, 1980 г.*

Дарагая мая Соф'я Захараўна!

З цікавасцю прачытала аповесць пра Купалу. Прама скажу, вельмі не падабалася яна мне. Гэта якраз такое, чаго я не выношу ў адносінах да сябе. Я цярпець не магу прыставанняў карэспандэнтаў аб маім асабістым жыцці. Вось і тут, зблытана, рознагалосна, урыўкамі апісана тое, што з'яўляецца інтымным жыццём, куды не дапускаецца чужое вока і чужая рука. Бесцырымонна выцягваюцца адносіны, якія альбо былі, альбо іх не было, гэтага не праверыш, і наўрад ці Купала з кім-небудзь дзяліўся ўражаннямі аб перажытым.

Зайздрошчу Вам (па-добраму), што Вы на Нарачы. Як цудоўна павінна быць там! Птушкі спяваюць, лес шуміць, вада плешчацца аб берагі, а паветра напоена пахамі кветак і лесу: сасны, елкі і ліставых дрэў. Дай Бог Вам шчасця! У мяне выйшаў двухтомнік II тыражом. 2 тыражы зараз. Даведалася пра гэта, толькі атрымаўшы 2-гі ганарар, такі ж вялікі, як і за першы тыраж. Калі б гэта ўсё раней! Цяпер радуюся толькі таму, што забяспечу сям'ю і сваю, і сястры, і ўнукаў, і пляменнікаў. Гэта так радасна магчы даць блізкім тое-сёе — адыходзячы ад жыцця. Рада, што Ваша мілая Надзюша ўжо з Вамі і Вам спакайней жыць пад яе апекай і клопатам. Можа быць таму, што я стала «багатай», я таксама карыстаюся і дапамогай, і клопатам, і ўвагай усіх блізкіх. Стараюся плаціць ім тым жа. Сям'я ў нас цесна спаяная і дружная, усе клапоцяцца адзін аб адным і любяць адзін аднаго. Пішыце мне, калі захочаце, я рада Вашым пісьмам і заўсёды чакаю іх прыходу. А калі не пішацца — не пішыце, я разумею, як гэта бывае. Не пішацца і мне іншы раз.

Моцна цалую Вас і Надзейку, і Ірачку.

Ваша Кан. Буйло.

*Масква, 28/VII—82 г.*

Дарагая, родная Соф'я Захараўна!

(...) Я яшчэ раз уважліва прачытала кнігу Лойкі пра Купалу. Напісана яна ўвогуле вельмі добра. Дадзены багацейшы матэрыял пра часы «Нашай нівы», пра людзей, якія рабілі яе, пра становішча ў тым супольніцтве, якое я блізка ведала, і людзей бачу як жывых. Я была занадта маладая ў той час, мне не былі зразумелыя ўсе тыя калізіі палітычнага і грамадскага парадку, якія там разыгрываліся. Але я добра ведала Ластоўскага Вацлава, яго жонку Марыю, якая заўсёды паіла мяне смачнай кавай з булачкамі. Аднойчы я зайшла ў «Н. Н.», і яна выйшла да мяне з заплаканымі вачыма і з новай газетай -Н. нівай», дзе быў надрукаваны мой верш «Адна, ізноў адна...». Яна плакала над ім. Мне здалося, што яна не зусім шчаслівая са сваім Вацлавам, калі такое яе хвалюе да слёз. Я ведала яе дачок Ганку і Стасю. Ганцы было тады гадоў 5—6, а Стасі тры гады. Яна была пухленькая, беленькая, зусім непадобная на смуглую Ганку. Я тады і не падазравала, што Ластоўская вядомая літоўская пісьменніца. Потым у Каўнасе, у глыбокай старасці, калі на яе юбілей увесь дом яе быў завалены кветкамі, яна, ужо не разумеючы нічога, пыталася ў Стасі: «Адкуль столькі кветак? Навошта яны?» Пра гэта мне расказвала Ганка. Вось мне і хочацца дачытаць гэтую аповесць пра знаёмыя часы і людзей. Думаецца, Янка быў бы смяртэльна злы на вывалакванне на ўвесь свет яго інтымных спраў, калі яны і былі. Нельга карыстацца безабароннасцю мёртвых...

Цалую Вас, маю мілую, дарагую, родную, моцна. Ваша заўсёды

Кан. Буйло.

*Масква, 1982 г.*

Мілая, дарагая мая
Соф'я Захараўна!

Атрымала Ваша вельмі сумнае пісьмо. Разумею, родная, Вам вельмі цяжка забыць Міхася Ціханавіча, Гэта быў душэўна багаты чалавек. Да такіх людзей любоў глыбейшая, сур'ёзнейшая — гэта не толькі муж, гэта сябар у самым глыбокім значэнні гэтага слова. Страціць такога — гэта адарваць частку сваёй душы, а такая рана невылечная.

Але і вялікае шчасце было мець такога сябра. Няхай гэта асвятляе Ваша сёння, няхай дорыць шчасце тое, што такое было. Бо рэдкая жанчына мае яго ў жыцці. Рэдка складваецца гармонія адносін такая, што смерць не ў стане разарваць вузы дружбы, кахання, павагі і адданасці ўзаемнай. Вы гэта шчасце мелі. Я ведаю яму цану, бо яго мела і я. І страціла так трагічна... Усё, што было потым, і ёсць, не ідзе ні ў якое параўнанне з тым, што было. Рана не зажывае. Нягледзячы на вонкавыя праяўленні бадзёрасці, жыццярадаснасці, жыццядзейнасці, нават адчуванняў радасці, што дорыць іншы раз сучаснасць,— рана баліць усё роўна, і вылечыць яе толькі смерць.

Але неабходна, пакуль гэтая смерць не надышла, жыць. А жыць — гэта значыць успрымаць усю сучаснасць жывым успрыняццем. Старацца бачыць і светлыя, і ценявыя бакі жыцця, прымаць у ім удзел. Я разумею жаданне пакласці галаву на плячо сябра і адпачыць — ад адчування цеплыні сяброўскага пляча, удзелу дружалюбнага сэрца. Дарагая мая, усю цеплыню маёй дружбы перадаю Вам з самым сардэчным пачуццём любові да Вас, харошая Вы. Вас любіў чалавек, якога я глыбока паважала, да якога ставілася з вялікай цеплынёй дружбы і разумення, што цалкам распаўсюдзіліся і на Вас. Пішыце мне шчыра, проста, я заўсёды Вас сэрцам зразумею і сумею быць Вам блізкім, родным чалавекам. Запэўніваю Вас, што гэта вельмі шчырая добразычлівасць і сапраўдная сардэчнасць.

Як Ваша здароўе? Як сэрца? Як справы дома, у сям'і? Як дачка? Як унучка? Думаю, што яны ў нейкай меры змякчаюць пачуццё адзіноты, якое Вы натуральна зведваеце без Міхася Ціханавіча. Я вельмі засмучана, што нашы пісьменнікі і паэты так рана пакідаюць жыццё. Куляшоў, Бялевіч, Мележ, Астрэйка, Глебка, Пястрак — гэта ж проста жудасна. Яшчэ Дубоўка, і ўжо не ўспомню цяпер усіх, хто адышоў. Маладыя, у поўнай сіле творчасці, таленавітыя, цудоўныя людзі. Чаму? Што з'явілася прычынай гэтых заўчасных адыходаў з жыцця? Многа думаю пра гэта. З кожным з іх была нейкая сувязь творчая. Думкі іх, іх кнігі хвалявалі, радавалі, хацелася чакаць новых твораў — цікавых, змястоўных, што адлюстроўваюць нашу рэчаіснасць і —трагічна адно за адным абрываюцца жыцці душэўна блізкіх таварышаў. Балюча і крыўдна. Нараджэнне і смерць — гэта нармальная з'ява жыцця. І ўсё ж — да смерці блізкіх прывыкнуць чалавецтва ніколі не зможа. Гэта заўсёды трагедыя і невыносны боль.

Пасылаю Вам кніжачку журналіста Дзіяны Чаркасавай аба мне. Тут ёсць фота Міхаіла Ціханавіча. Вельмі сімпатычна тут ён выглядае. Дзякуй Вам за выразку артыкулаў юбілейных і каралішчавіцкае фота. Са мной побач Аксана Куляшова. Дзе яна, што з ёй? Як перанесла яна смерць Аркадзя? Як Валодзя і Саша, яе сыны, і мая любіміца — яе дачка?

Моцна Вас цалую і прашу пісаць мне і лічыць мяне сваім шчырым і верным сябрам.

Заўсёды Ваша Кан. Буйло.

*Масква, 28/X—82 г.*



Наспакойнае наша жыццё, поўнае турбот, хваляванняў, безвыходнасці. Гэта няўпэўненасць у дні заўтрашнім: ці не апынёмся беспрацоўнымі, ці дастанецца што-небудзь з харчовых або прамысловых тавараў, ці не зняважаць цябе ў грамадскім транспарце... Ды яшчэ ўсяго такога назбіраецца нямала на нашу галаву. Але знаходзяцца сярод нас і аптымісты. Ім і гора не гора, і бяду, як кажуць, рукамі развядуць. Падтрымаюць, абнадзеяць, дапамогуць перажыць ліхую гадзіну. Вось такі і Емяльян БАБКОЎ (на здымку). На Гомельшчыне яго ведае і стары і малы. Возьме ў рукі гармонік, пройдзе па вуліцы сваёй вёскі і развесяліць народ чароўнымі гукамі. Музыка — жаданы госць на кожным свяце: няхай гэта будзе вяселле або хрэсьбіны, юбілей або фестывалі мастацкай самадзейнасці. Для кожнага пакалення людзей у Аляксандра Іванавіча, нібы па заказу, падрыхтавана свая мелодыя. Ліхія, гарэзлівыя мелодыі для маладых, матывы далёкага юнацтва для старых. І адтайваюць ад віртуознай ігры музыкі сэрцы людзей. Яны становяцца больш чулымі адзін да аднаго, больш спагадлівымі і весялейшымі. На самай справе: прыйдзе час — усё зменіцца, гора перамелецца, прыйдзе і на нашу вуліцу свята...

Фота Віктара СТАВЕРА.

## З МІНУЛАГА

# ПОШТА НА ПІНШЧЫНЕ Ў КАНЦЫ XVIII СТАГОДДЗЯ

З МОМАНТУ з'яўлення паштовай службы ў Пінскім павеце яго жыхары зведвалі вялікія нязручнасці з адпраўленнем карэспандэнцыі ў бліжэйшыя гарады і мястэчкі. Гэта было выклікана тым, што ў Пінскім павеце, балоцістым і лясістым, было мала паштовых станцый і паштовых дарог. Забалочанасць тэрыторыі не садзейнічала будаўніцтву паштовых шляхоў. Карэспандэнцыя з Пінска нават у суседнія гарады ішла доўга і акружным шляхам. Напрыклад, каб адправіць пісьмо з Пінска ў Столін, адлегласць паміж якімі складала ўсяго 15 міль (1 міля — 7,798 кіламетра), трэба было пасылаць пісьмо цераз паштовую станцыю ў Гродне, а гэта 60 міль у адзін толькі канец. Іншыя паштовыя станцыі ў Вільні і Роўне знаходзіліся яшчэ далей. Таму жыхары павета ў канцы 80-х гадоў XVIII стагоддзя звярнуліся з просьбай у мясцовы сеймік аб удасканаленні паштовай службы на Піншчыне.

28 сакавіка 1791 года Грамадзянска-ваенная і Парадкавая камісія Пінскага павета прыняла пастанову, у адзін з пунктаў якой і ўвайшла скарга жыхароў павета на нязручнасці акружных шляхоў руху пошты, якая стрымлівае сувязі паміж людзьмі,— гандлярамі, купцамі і г. д. Камісія накіравала гэтую пастанову паслам Пінскага павета ў сейме ў Варшаве і звярнулася да іх з просьбай, каб яны прасілі дырэктара поштаў змяніць рух поштаў у Пінскім павеце. Пастанову камісіі падпісалі камісары Антанін Платар, старшынствуючы, Ян Бутрымовіч, камергер (шамбелан), члены камісіі Міхаіл Родзевіч і падпаручнік Вялікага княства Літоўскага Каспер Корсак.

У той час пасламі Піншчыны ў чатырохгадовым сейме былі Матэвуш Бутрымовіч, каралеўскі камергер (шамбелан), пінскі збройнік (мечнік) і Павел Шырма, падстолій і пінскі гарадскі пісар. Выконваючы свае абавязацельствы перад суграмадзянамі, ускладзеныя на іх у сейміку, паслы склалі ў Варшаве пасольскую прапанову аб рэарганізацыі пошты на Піншчыне і 28 красавіка 1791 года ўручылі яго Дзедушыцкаму, пісару Вялікага княства Літоўскага, генералу поштаў Польскага краю. У пасольскай прапанове ішла размова аб урэгуляванні руху поштаў з Варшавы ў Пінск, з Пінска ў Столін, як горада ў той час ужо сеймікавага, а таксама ў далейшым прадоўжыць паштовыя шляхі са Століна да Роўна, а з Пінска да Слоніма. Праект прадугледжваў палепшыць работы паштовай службы на тэрыторыі Пінскага павета. Асаблівая ўвага ў праекце была ўдзелена новым паштовым трактам і станцыям. Каб звязаць Пінск з Варшавай, аўтарамі праекта быў прадугледжаны паштовы тракт Пінск — Брэст Літоўскі — Варшава з указаннем размяшчэння паштовых станцый. Меркавалася, што паштовыя станцыі будуць размешчаны на тракце на адлегласці 3—4 міль. Паміж Брэстам і Пінскам засноўваліся паштовыя станцыі ў Булцы, Кобрыне, Антопалі, Драгічыне, Янове, Дубоі. Далей паштовая дарога павінна была ісці ад Пінска да Століна з паштовымі станцыямі ў Лапаціне і Вавічах. Ад Століна да Роўна меркаваліся пяць паштовых станцый — у Дамбровіцы, Нясмовічах, Беражна, Людвіполі і Кажэцах. На тракце Пінск — Слонім праект прадугледжваў тры паштовыя станцыі — у Лагішыне, Целяханах і Барках. Пасольскі праект меў на мэце заснаваць на ўсіх станцыях пасады паштмайстраў і іх намеснікаў абавязкова з прыняццем прысягі. Гэта тычылася асабліва тых паштовых станцый, якія былі размешчаны ў паселішчах, што мелі панскія двары. Здаралася, што які-небудзь яснавяльможны пан, уладальнік вёскі, прыязджаў на пошту і дзеля цікавасці загадваў работніку пошты распячатваць пісьмы, ламаць сургучныя пячаткі, а пасля прачытання пісьмаў некаторыя затрымліваў. Каб такое не здаралася, праект прадугледжваў адказнасць работніка пошты за захаванне ўручаных яму пісьмаў.

Ажыццявіць гэты цікавы і патрэбны праект для пінскай пошты не ўдалося. Праект так і застаўся толькі праектам, які захоўваецца ў архіве. Прычынай таму быў апошні падзел Польшчы. І хаця праект не быў ажыццёўлены, ён і сёння выклікае цікавасць, таму што расказвае аб вялікай і актыўнай дзейнасці Пінскага сейміка на ніве паштовай справы, клопаце яго паслоў у Варшаўскім сейме пра інтарэсы і дабрабыт Пінскага павета.

Леў КОЛАСАЎ.

# МУЗЕЙ ЧАКАЕ ГАСЦЕЙ

Упершыню ў Навагрудку расчыніў дзверы перад наведвальнікамі гісторыка-краязнаўчы музей. Па крупіцах збіралі для яго экспанаты мясцовыя энтузіясты. У дзевяці залах прадстаўлена ўся гісторыя старажытнага горада—ад першых паселішчаў да нашых дзён. Асабліва цікавы гістарычны раздзел з па-майстэрску выкананымі макетамі, вітражамі, схемамі. Апрача грамадскасці і гарадскіх улад, немалую лепту ў стварэнне музея ўнеслі тутэйшыя архітэктары, мастакі.



НА ЗДЫМКУ: адзін з фрагментаў экспазіцыі—макет старажытнага Навагрудка.

Фота Э. КАБЯКА.

## СПОРТ

Удзел беларускіх спартсменаў у міжнародных спаборніцтвах можна раздзяліць на дзве палавіны: выступленне за межамі былога Саюза і ўнутры яго. У першым выпадку часта атрымліваюцца збоі. А прычына ўсё тая ж: адсутнасць грошай, валюты на паездкі. У другім — справа больш-менш цярпімая, бо знайсці савецкі рубель яшчэ ўдаецца і на білеты, і на экіпіроўку каманд Рэспублікі Беларусь. А выступленні нашых землякоў не могуць не радаваць. Што ні спаборніцтва, то прызы, узнагароды, чэмпіёнскія званні, перамогі. Коратка раскажам аб выступленні спартсменаў Беларусі, што прайшлі ці праходзяць у гэтыя дні.

### ШАШКІ

Гросмайстры з Мінска Анатоль Гантварг і Аляксандр Балякін прымаюць удзел у першынстве свету, якое праходзіць у Францыі. Ужо са старта нашы землякі выйшлі ў лідэры. А ўзначальвае турнірную табліцу Анатоль Гантварг.

### САМБА

У Алма-Аце самбісты разыгралі Кубак свету. Паспяхова выступіла тут жаночая каманда Рэспублікі Беларусь. Яна заняла другое месца, уступіўшы ў фінале ўкраінкам.

Міжнародная федэрацыя самба прыняла рашэнне правесці чэмпіянат свету ў Мінску. Тэрмін — снежань гэтага года.

### ГАНДБОЛ

Першую сустрэчу адной шаснаццатай розыгрышу Кубка Міжнароднай федэрацыі гандбола правяла жаночая каманда мінскага «Політэхніка». Яна перамагла «Аўтамабіліст» з Украіны. Лік сустрэчы 27:22. Лепшай на пляцоўцы была мінчанка Алена Корзун, якая закінула ў вароты сапернiц дзевяць мячоў.

### КІКБОКСІНГ

Адзін залаты, два сярэбраныя і чатыры бронзавыя медалі — такі вынік выступлення клуба «Кік Файтар» з Мінска на розыгрышы Кубка СНД, які прайшоў на Украіне.

Вышэйшую ўзнагароду заваяваў Юрый Гоша. Пераможцу з Мінска ўсяго 17 гадоў.

### БАСКЕТБОЛ

Перамогу без гульні атрымалі спартсменкі мінскага «Гарызонта» ў розыгрышы Кубка еўрапейскіх чэмпіёнак. Іх матч з югаслаўскай камандай «Црвена Звезда» не адбыўся з-за баявых дзеянняў у гэтай краіне.

Наступны супернік мінчанак будзе вызначаны ў сустрэчы паміж баскетбалісткамі «Апалон» (Грэцыя)—«Печ» (Венгрыя).

Рэдактар Вацлаў МАЦКЕВІЧ

ЗАСНАВАЛЬНІК:

Беларускае таварыства па сувязях з суайчыннікамі за рубяжом (таварыства «Радзіма»).



НАШ АДРАС:

220600, МІНСК, ПРАСПЕКТ Ф. СКАРЫНЫ, 44.

ТЭЛЕФОНЫ: 33-01-97, 33-02-80, 33-03-15, 33-16-56, 33-07-82.



Газета аддрукавана ў друкарні «Беларускі Дом друку»
Тыраж 5 500 экз.
Індэкс 63854. Зак. 1793.
Падпісана да друку 5.10. 1992.